НЕСТАНДАРТ

# Художник, который рисует зубами

*Анатолий Голушко из Ивацевичского района стал лауреатом фестиваля творчества инвалидов.*



Многожанровый творческий форум, в котором приняли участие более ста человек с ограниченными физическими возможностями из Беларуси и России, состоялся в Смоленске. На фестивале были представлены пять работ самобытного художника Анатолия Голушко. Горный и осенний пейзажи, букеты пионов, выполненные в технике "живопись маслом на холсте", были высоко оценены членами жюри и участниками фестиваля.

Яркие, жизнеутверждающие картины 50-летний художник-инвалид Анатолий Голушко рисует зубами. Получив в 17-летнем возрасте после неудачного прыжка в речку тяжелейшую травму позвоночника, он оказался прикован к кровати. Однако благодаря своему упорству и силе воли обрел смысл жизни в творчестве.

С красками и кисточками художник не расстается вот уже более десяти лет. За это время, по признанию Анатолия Голушко, он создал около 400 работ, большинство из которых находится в частных коллекциях. Его персональные выставки прошли в Бресте, Минске, неоднократно — в родных Ивацевичах, а в нынешнем году — в Белоозерске и Березе.

В 2008 году Анатолий Голушко был принят во Всемирную организацию художников-инвалидов (ВАХИ), рисующих зубами и ногами.

*"В последние годы я работаю особенно плодотворно*, — цитирует belta.by художника. — *Можно сказать, загружен заказами. Люди приезжают, звонят, просят написать для них одну-две, а то и три картины. Я рад, что мое творчество востребовано. Есть холсты, краски, кисточки, есть вдохновение и желание — так почему не работать? И если мой пример кого-то обнадежит в жизни, значит, все, что я делаю, не зря".*

КАСТИНГ

# Требуются юные актеры!

*Белорусский государственный академический музыкальный театр ищет артистов. Причем совсем юных — от 6 до 10 лет.*

*"Для участия в спектакле "Красная Шапочка. Поколение NEXT" — девочек в возрасте от 6 до 8 лет. Для спектакля "Приключения бременских музыкантов" — мальчиков и девочек от 6 до 10 лет"*, — говорят в театре. Требования к юным артистам серьезные: наличие вокальных данных, артистичность, пластичность, приветствуется знание музыкальной грамоты.

Прослушивание состоится в декабре.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## В Президентском оркестре платят больше, чем в Театре юного зрителя

Сразу несколько вакансий артистов открыты и в других белорусских театрах.

Так, Театр юного зрителя уже не первый месяц приглашает артистов драмы. Все желающие получить зарплату должны пройти обязательный художественный просмотр. Зарплату обещают скромную — от 2 миллионов рублей.

Артисты оркестра требуются в Национальный академический хор имени Г.Цитовича и Президентский оркестр. В Президентском оркестре ведущему мастеру сцены обещают от 6 миллионов белорусских рублей, в хоре Цитовича — 1 миллион 800 тысяч.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

БЕЗ ГАЛЬШТУКА

*Сяргей ТАРАСАЎ:*

# «Беларусь выратуе толькі жанчына-прэзідэнт»

*У мінулыя выхадныя кампанія палітыкаў, гісторыкаў і грамадскіх дзеячаў сабралася разам, каб адзначыць 15-годдзе грамадскай арганізацыі "Беларуская жаночая ліга". Мерапрыемства прайшло ў адной з аграсядзіб пад Мінскам у цёплай сямейнай атмасферы без аніякага афіцыёзу.*

## Другі дзень народзінаў

*— Калі шчыра, то дзень народзінаў у нас у красавіку*, — адразу заўважыла кіраўніца арганізацыі кандыдат гістарычных навук **Ніна Стужынская**. — *Але я ўзгадала, што ў верасні 2006 года мы так паактыўнічалі, што Вярхоўны суд спрабаваў закрыць нашу арганізацыю. І якраз 10 лістапада нашай арганізацыі дазволілі працягнуць дзейнасць. І я падумала: самы што ні на ёсць сапраўдны другі дзень народзінаў!*

*15 гадоў для грамадскай арганізацыі — гэта зашмат. І першыя пяць год — гэта была амаль эпоха рамантызму. Але калі ўзгадваеш усе гады — працавалі сапраўды ад душы! Не за грошы, не за гранты, а проста таму, што хацелася зрабіць лепшае для краіны, для жанчын. За гэты час шмат арганізацый проста зніклі. А мы, дзякуй Богу, трымаемся...*

*Шкада, што сёння няма з намі **Міколы Віктаравіча Статкевіча** — ён заўсёды ад душы падтрымліваў нас і словам, і справай... Побач з намі заўсёды быў і светлай памяці **Міхась Чарняўскі**, адзін з тых нешматлікіх дзеячаў сацыял-дэмакратыі, які разумеў вялікую ролю жанчыны ў пабудове лепшай будучыні.*

Як пажартавала намесніца старшыні БЖЛ **Таццяна Язькова**, па стрэсавых умовах працы, створаных ў Беларусі для грамадскіх арганізацый, можна смела год залічваць за тры, таму пры такім падыходзе Беларуская жаночая ліга сёння, як у той прымаўцы, *"45 гадоў — баба ягадка ізноў"*.

Кіраўніца кобрынскага клуба дзелавых жанчын "Бона" **Ала Сапяжынская** заўважыла, што менавіта дзякуючы Беларускай жаночай лізе *"многія беларускія жанчыны сталі іншымі"*.

*— Яны сталі самадастатковымі, упэўненымі ў сабе, прасунуліся ў шматлікіх пытаннях,* — сказала яна.

*— А Ніна Стужынская мела магчымасць стаць прыдворным гісторыкам, зрабіць выдатную кар'еру, грэбуючы сваімі думкамі і сваімі пачуцця*мі, — дадаў адзін са старэйшых сябраў беларускай сацыял-дэмакратыі **Уладзімір Харытонавіч Мішура.** — *Але яна ўславіла нацыянальных герояў, Слуцкі збройны чын, адкрывае Беларусі і ўсяму свету гэтых барцоў за нашу свабоду, за нашу краіну.*

*— Гэта не мой, а наш, наш юбілей*, — час ад часу з усмешкай папраўляла выступоўцаў Ніна Іванаўна, калі тыя з 15-годдзем арганізацыі пачыналі віншаваць менавіта яе. — *Гэта наша свята, агульнае.*

Дарэчы, свой дзень народзінаў Ніна Стужынская адсвяткуе яшчэ толькі напрыканцы снежня.



**Гісторыкі Сяргей Тарасаў, Валянціна Лебедзева і Андрэй Кіштымаў.**

## Шэршэ ля фам!

Некаторыя палітыкі даволі адказна паставіліся да запрашэння на імпрэзу і падрыхтавалі не толькі букеты з бел-чырвона-белых руж, але нават і міні-лекцыю пра ролю жанчыны ў гісторыі Беларусі. Так, намеснік старшыні "Народнай Грамады" сацыял-дэмакрат **Алесь Арастовіч** і верш з песняй вывучыў, і экспрэс-экскурс у гісторыю наладзіў.

Дарэчы, у аграсядзібе за адным сталом былі заўважаны прадстаўнікі розных, так бы мовіць, аскепкаў беларускай сацыял-дэмакратыі. І нічога, ніхто не сварыўся і не перацягваў коўдру на сябе!

*— Гісторыкі сведчаць, што ўплыў жанчын на беларускую гісторыю, сацыяльна-эканамічныя і палітычныя змены адбываўся ў час катаклізмаў — рэвалюцый, войнаў,* — нагадаў Алесь Іванавіч. — *Першыя згадкі пра жанчын у беларускай гісторыі датычацца часоў Вялікага Княства Літоўскага. Заўважны ўздым палітычнай актыўнасці жанчын назіраўся падчас паўстанняў 1831-га і 1863 гадоў. Жанчыны выконвалі ролю сувязных, інфарматараў, захоўвалі зброю, бралі ўдзел у паўстанцкіх аперацыях. Рэпрэсіўная палітыка царскага ладу фарміравала эмігранцкія асяродкі пасля паразы паўстанняў, спрыяла ўзнікненню і распаўсюджванню новых канспіратыўных формаў палітычнай актыўнасці жанчын. І хоць гісторыю пішуць мужчыны, робяць яе менавіта жанчыны. Адна справа — геройскі пайсці ў бой, а другая — кожны дзень выконваць цяжкую працу, выхоўваць дзяцей, ратаваць параненых мужчын, весці гаспадарку...*

*Сярод зорак першай велічыні ў беларускай палітыцы Палута Бадунова. Яна адзін з лідараў барацьбы за нацыянальнае дзяржаўнае вызначэнне, адна з нямногіх палітыкаў уладных структур. Дарэчы, Бадунова ўваходзіла ў ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады. Падчас Другой сусветнай вайны таксама было шмат жанчын, якія зрабілі свой унёсак у перамогу...*

Палітык, які ўваходзіць у аргкамітэт па адраджэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада", выказаў спадзеў, што ў свой час на будынку дома па вуліцы Карла Маркса ў Мінску, дзе калісьці адбываўся першы з'езд БЖЛ, з'явіцца адпаведная шыльда. І дадаў, што ён, як і сябры БЖЛ, таксама бачыць Беларусь еўрапейскай краінай і выступае за стварэнне роўных умоў для жанчын у кіраванні краінай.

*— Так-так, Беларусь выратуе толькі жанчына-прэзідэнт*, — падтрымаў Арастовіча вядомы беларускі археолаг, кандыдат навук **Сяргей Тарасаў**.

## Хутка можна і замуж

*— Што такое 15 гадоў?* — з усмешкай спрабаваў філасофстваваць наконт юбілею арганізацыі кандыдат гістарычных навук **Андрэй Кіштымаў**. — *Гэта вельмі важная мяжа: 16 — гэта ж ужо можна і замуж... Таму я з задавальненнем гляджу на гэтых свабодных, разняволеных жанчын, якія дакладна ведаюць, чаго хочуць і як гэтага дамагчыся.*

За музычную частку ў дуэце **Андрэя Кіштымава** і **Сяргея Тарасава** адказваў апошні. І, дарэчы, Сяргей Васільевіч так хораша спяваў, што прысутныя нават шчыра параілі на тыя гістарычныя лекцыі і выступленні, якія ён час ад часу ладзіць у розных гарадах Беларусі, абавязкова браць з сабой гітару.

*"Ну дык я ж сёння і ўзяў..."* — прыемна ўсміхнуўся археолаг, разам з якім госці з задавальненнем хорам праспявалі не адну беларускую песню...



Ніна Стужынская і Алесь Арастовіч.

ГАСТРОЛЬ

# Андрей Макаревич споет только о любви

*8 декабря на сцене Белорусского государственного академического музыкального театра Андрей Макаревич, трио известного джазового пианиста Евгения Борца и вокальная джазовая группа A'cappella ExpreSSS представляют проект "L.O.V.E. Песни про Любовь".*

*Названием для новой программы послужила известная песня Нэта Кинга Коула "L.O.V.E.", в аббревиатуре которой маэстро лихо зашифровал свое понимание любви...*

*— Много лет назад, когда я был совсем молодой, я по 20 часов в сутки слушал "битлов" на магнитофоне*, — рассказывает музыкант. — *На ужасно затертой пленке. Там совсем нельзя было разобрать слов, но я был убежден, что такую великую музыку могут сопровождать только великие слова. И я придумывал себе бог знает что. Спустя несколько лет я узнал, что все эти песни... про любовь. И даже расстроился. А потом прошло еще много лет. И оказалось, что если взять сто самых любимых песен человечества, то 95 из них будут про любовь. Из этой идеи родилась программа, которая называется "L.O.V.E.". Все отобранные для нее песни объединены только одним качеством — все они, опять же, про любовь. По музыке все вещи очень разные, а по настроению, по-моему, замечательные. Так что ничего радикального в моем новом выборе нет. Просто у меня, наконец-то, появилась возможность исполнять музыку, которую я люблю и которую хотел играть всю жизнь.*

Программа действительно состоит из шедевров. На концерте прозвучат знаменитые песни о любви из классики эстрады, джаза и поп-музыки таких замечательных авторов, как Джосс Стоун, Уолтер Дональдсон, Пол Маккартни, Джон Леннон, Алан Бергман, Джерри Херман, Мерл Тревис. А еще в программе — Окуджава, русский городской фольклор, народные песни...

**Алина ВЕТРОВА.**



СЛЫШАЛИ?

# Бориса Светлова пригласили в Монако

*В начале декабря там пройдет Международный кинофестиваль, на главный приз которого претендует короткометражка "Туфельки" режиссера Константина Фама.*

*Примет министр культуры приглашение или нет — пока точно не известно.*

Фильм "Туфельки" откроет фестиваль перед европейской премьерой документальной ленты Дэвида Линча "Meditation Creativity Peace".

Картина посвящена памяти жертв Холокоста и рассказывает об истории пары туфелек, которая начинается в витрине магазина и трагически обрывается в могиле обуви концлагеря Освенцим. Лента совместного производства Беларуси, России, США, Чехии, Франции и Польши создана при поддержке Министерства культуры Беларуси. Фильм стал первой новеллой киноальманаха "Свидетели", рассказывающего о катастрофе еврейского народа.

Ранее сообщалось, что фильм "Туфельки" также прошел квалификацию и попал в список претендентов на соискание премии "Оскар" в номинации "Лучший короткометражный фильм" в 2014 году

***Для справки:*** *Monaco International Film Festival — один из самых значимых и успешных фестивалей независимого кино в Европе. Из более чем тысячи присланных работ ежегодно отбирается только 20 картин, которые делятся на 8 категорий, чтобы впоследствии разделить престижные награды. Беларусь впервые примет участие в этом европейском киносмотре.*



ЗАПРАШЭННЕ

# «Таямніцы Нясвіжскага замка» з Анатолем Бутэвічам

16 лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь у зале партрэтаў Радзівілаў адбудзецца сустрэча з аўтарам кнігі "Таямніцы Нясвіжскага замка" **Анатолем Бутэвічам.**

*"Вы пачуеце шмат цікавага і займальнага пра сапраўдную Радзівілаўскую дзяржаву, некаранаваную сталіцу Нясвіж і яе гаспадароў — некаранаваных каралёў Радзівілаў, пра іх заняткі гісторыяй, культурай і навукай, пра іх захапленні і забавы,* — рэкламуе мерапрыемства музей. — *Можна будзе набыць кнігу і атрымаць аўтограф аўтара".*

У сустрэчы возьмуць удзел народная артыстка Беларусі **Марыя Захарэвіч**, паэт **Навум Гальпяровіч**, дзеяч беларускай культуры **Уладзімір Гілеп**, паэты і пісьменнікі. Прагучаць вершы з "Нясвіжскага альбома" Францішкі Уршулі Радзівіл. Сустрэчу аздобяць старадаўнія і народныя мелодыі ў выкананні народнага фальклорнага ансамбля "Тутэйшая шляхта".

ЗАСТОЛЬНАЕ



**За такі тост грэх было не выпіць...**

## Каб не стралялі арлоў

*Шмат прыемных слоў і заслужаных кампліментаў было выказана на адрас Беларускай жаночай лігі і жанчын, якія ствараюць гісторыю. Пад канец вечарыны **Сяргей Тарасаў** пераказаў філасофскі тост ад пісьменніка **Уладзіміра Арлова:***

***— Жыў-быў арол — птах моцны і ганарлівы. Аднойчы вельмі захацелася яму есці. Як звычайна, падняўся ён высока ў неба, ляціць і бачыць, што ўнізе пасвіцца статак. Спадабаўся арлу казёл. І сабраў ён усю сваю моц, ухапіў гэтага казла і падняў яго высока у нябёсы. А ў гэты час беларускі паляшук, убачыўшы, як арол падымае казла, ускінуў стрэльбу і пацэліў у арла. І той камнем упаў на зямлю. А казёл паляцеў далей.***

***Дык давайце жа вып'ем за тое, каб на Беларусі не стралялі арлоў і каб казлы не лёталі...***

## Пяць фактаў пра Беларускую жаночую лігу

*• Створана ў красавіку 1998 года, аб'яднала прыхільніц сацыяльнай дэмакратыі, адукаваных жанчын дэмакратычных перакананняў. За час існавання арганізацыя стварыла 23 суполкі ў гарадах і мястэчках Беларусі.*

*Нацыянальнае адраджэнне, демакратызацыя грамадства і гендэрная роўнасць — асноўныя прыярытэты дзейнасці арганізацыі.*

*• БЖЛ — адна з ініцыятараў і стваральнікаў Жаночай сеткі Беларусі (2007 год).*

*• Сярод дасягненняў БЖЛ — стварэнне і кіраўніцтва дзейнасцю Мінскага клуба гісторыкаў (1998—2003 гады), які паклаў пачатак рэспубліканскаму маладзёжнаму аб'яднанню "Historyka".*

*• БЖЛ мае багаты досвед рэалізацыі праектаў па папулярызацыі новых, альтэрнатыўных савецкай версіі ведаў. Так, дзякуючы праекту "Беларускі рэзістанс" (2002—2003 гады) былі ўпершыню абнародаваны сакрэтныя матэрыялы са спецархіваў па гісторыі антысавецкага супраціву.*

*• З мэтай папулярызацыі нацыянальнай гісторыі і пераадолення савецкіх стэрэатыпаў былі здейснены праекты "Гісторыя, якой няма ў падручніках", "Гісторыя, якая натхняе". У межах адукацыйных праектаў выдадзены пяць кніг па актуальных праблемах антысавецкага супраціву і палітычных рэпрэсій.*

*Два асобныя праекты былі прысвечаны "жаночай" гісторыі Беларусі. У адмысловым альбоме былі сабраны фотаздымкі і ілюстрацыі з багатай "жаночай" гісторыі змагання за еўрапейскую дэмакратычную Беларусь.*

*У гэтым накірунку дзейнасці ў абарону нацыянальнай гісторыі арганізацыя працуе і зараз у межах кампаніі "Нацыянальны Пантэон" — гэта праект, які аб'яднаў людзей, не абыякавых да сваёй гераічнай спадчыны.*

*"У нас няма выпадковых меркантыльных праектаў. Усё рабілі і робім з вялікай зацікаўленасцю і душой", — падкрэсліла Ніна Стужынская.*

**Марына КОКТЫШ.**

АСОБА

# Азбука Аляксандра Куля

*Аляксандр Куль — адзін з самых тытулаваных беларускіх баскетбалістаў, а зараз — дырэктар цэнтра эканамічнага развіцця і спартыўнага маркетынгу баскетбольнага клуба «Цмокі-Мінск» — расказвае аб сабе і не толькі аб сабе па алфавіце.*



## А

**Аляксандр.** Кажуць, што Аляксандр — гэта абаронца. Але па жыцці я не вельмі прымхлівы чалавек і не надта веру, што імя ўплывае на чалавека.

**Авантура.** Мяне не "чапляюць" азартныя гульні. Хоць, шчыра прызнаюся, некалькі разоў у казіно быў. Я не прыхільнік, каб зрабіць адну стаўку — і адразу ўзяць "куш". У першую чаргу трэба верыць ва ўласныя сілы і дабівацца поспеху працай. З іншага боку, кар'ера спартсмена — гэта ўжо авантура. Напрыклад, кантракт падпісаў на год і не ведаеш, што будзе далей. І тое, чым я займаюся, таксама ў нейкім сэнсе авантура, бо ніхто не абяцае вынік у адзін момант. Можа, ён з'явіцца толькі праз гады.

**Адзенне.** Для мяне адзенне — гэта праблема, бо мой рост — 2 метры 13 сантыметраў. З такімі памерамі ў Беларусі практычна нічога немагчыма купіць. Альбо можна, але я не хацеў бы ў гэтым хадзіць. Звяртаюся да знаёмых майстроў, якія шыюць пад заказ. А вось джынсы прывозяць з Амерыкі, нейкія іншыя тавары даводзіцца заказваць па інтэрнэце. Таму карыстаюся адзеннем "Зроблена не ў Беларусі". Калі ж быў юнаком і не было магчымасці апранацца за мяжой, меў і наогул мінімальны гардэроб. З абуткам такая ж бяда. Пагадзіцеся, што складана ў нашых крамах купіць туфлі 52-га памеру.

## Б

**Бароўка.** Мая родная вёска ў Верхнядзвінскім раёне. Гэта Радзіма, бацькі, дзяцінства, цягнікі... Я вырас у доме, які стаяў метрах у 20 ад чыгуначнай станцыі. Так што дзяцінства маё прайшло ў стылі Міколкі-паравоза. Усе гульні — каля чыгункі. Ноччу — грукат колаў цягнікоў. Лепш за калыханку, пад іх і засынаў. А вось спортам у дзяцінстве не займаўся, бо быў абсалютна неспартыўны і неатлетычны. Калі і бралі пагуляць у футбол, дык ставілі на браму. Маўляў, рост вялікі, больш прасторы буду займаць. Але мяне больш кнігі цікавілі.

**Баскетбол.** Пачаў займацца дастаткова позна — у 13 гадоў. А вось самае вялікае дасягненне — перамога ў складзе зборнай Беларусі на маладзёжным чэмпіянаце Еўропы 1994 года. Паспеў пагуляць у Польшчы, Турцыі, Грэцыі, 4 гады жыў у Амерыцы, дзе вучыўся і гуляў за ўніверсітэт. Хоць і не атрымалася паспрабаваць сябе ў НБА, але гэта асобная і доўгая гісторыя...

## В

**Вабны хлопец.** Не скажу, што я такі ўжо хлопец "ай-яй-яй", але ў свой час нейкае выданне складала спіс самых зайздросных беларускіх жаніхоў (я тады яшчэ быў нічыйны, нежанаты), і патрапіў у чацвёрку. У прынцыпе, неблагое дасягненне.

## Г

**Газеты.** Чытаў прэсу, калі не было інтэрнэту, хоць аддаваў перавагу спецыфічным часопісам — "Техника молодежи", "Наука и жизнь"...

**Гурман.** Люблю смачна паесці, але не тлустую ежу. Вельмі люблю салодкае, хоць пасля заканчэння спартыўнай кар'еры абмяжоўваю сябе ў гэтым, каб не разнесла. Хоць і сам неблагі кулінар. Добра атрымліваецца піца, гатункі з мяса, супы, салаты.

## Д

**Дачкі.** Да дзвюх дачок (старэйшай — 12, малодшай — 6) зараз дабавіўся яшчэ і сыночак, якому 9 месяцаў. Старэйшая дачка — маё другое "я". Яна ўся ў тату. Па паводзінах, захапленнях, "касяках", якія робіць. Нешта ўтворыць, злуюся на яе, а пасля думаю: "Дык я ж такі самы быў у дзяцінстве". А вось малодшая — прынцэса, яна зусім іншая. У маму пайшла, светлая парода. Дарэчы, у абедзвюх дачок двайныя імёны. Старэйшая — Дар'я-Ганна, малодшая — Амелія-Марыя. А сыну не патрэбны ніякі гламур — ён проста Мацвей.

## Е

**Еўразійскі саюз, Еўрасаюз.** Лічу, што ва ўсіх канфедэрацыях ёсць як свае плюсы, так і мінусы. Мне больш даспадобы Вялікае Княства Літоўскае.

## Ж

**Жаніцьба.** Ажаніўся, калі было 26 гадоў. Хоць дачка нарадзілася раней. Не было часу на вяселле, я тады гуляў за мяжой... Але пасля распісаліся. Жонка — былая валейбалістка, так што вяселле спартыўнае было.

## З

**Здароўе.** Пакуль гуляў, пастаянна нешта балела, траўмы... Зараз, на жаль, няма асабліва часу на спартыўную залу, але затое адчуваю сябе поўнасцю здаровым чалавекам

.

## І

**Ідылія.** Гэта для мяне нешта недасягальнае і тое, чаго не хацелася б дасягнуць. Спакойнае жыццё ў ідыліі не для мяне. Пастаянна нешта хочацца шукаць новае, рэалізоўваць, ісці наперад.

## К

**Кастусь Каліноўскі.** Шчыра кажучы, не вельмі добра ведаю біяграфію гэтага чалавека, але з таго, што чытаў, магу сказаць: Каліноўскі — вельмі харызматычная гістарычная персона. Годны сын свайго народа.

## Л

**ЛКСМБ.** Я дайшоў толькі да піянераў, а ў камсамол не ўступаў. Хадзіць табуном, праводзіць сходы — не маё. У тыя часы я вучыўся ў вучылішчы алімпійскага рэзерву, нейкі палітработнік без асаблівага энтузіязму прапанаваў уступіць у камсамол... Але ён асабліва не настойваў, а я асабліва не імкнуўся. Таму ЛКСМБ недалічыўся камсамольца Аляксандра Куля.

## М

**Мінск.** Мая другая пасля вёскі Радзіма. Тут я з жонкай пазнаёміўся, тут мы жывём з сям'ёй... Вось Масква, напрыклад, мяне не ўразіла. Напружвае. А Мінск — гэта маё жыццё, баскетбол... Дзякуючы кіраўніцтву горада сёння "Цмокі-Мінск" бяруць удзел у лепшых турнірах Еўропы і гуляюць нараўне з мацнейшымі клубамі кантынента.

**Мова.** Тое, да чаго хацелася б вярнуцца. Усім нам. Я сам паходжу з беларускамоўнай сям'і, і, калі прыехаў у Віцебск ды размаўляў на мове, на мяне глядзелі як на "хлопца з дзярэўні". Крыўдна было, былі злыя жартачкі... Але я лічу, што мова — гэта частка культуры нацыі, частка самаідэнтыфікацыі. Згубіў мову — стаў чалавекам свету. Краіна без мовы губляе сваю ўнікальнасць і сваю самабытнасць. Дарэчы, калі я пачаў работу ў клубе "Минск-2006" на пасадзе маркетынгавага дарэктара, прапанаваў, каб клуб быў перайменаваны ў "Цмокі-Мінск". Хацелася, каб беларускі клуб быў самабытны, з такой жа беларускай назвай. Каб людзі балелі за НАШЫХ! Дарэчы, уся рэклама ў нас ідзе на беларускай мове, буклеты таксама беларускамоўныя. Так, робім памылкі ў праграмах да матчаў, але ж мы вучымся на памылках. Расцём, стараемся зрабіць лепей...

## Н

**Набытак.** Думаю, самае дарагое, што ёсць у чалавека, гэта сям'я. Дом пабудаваў, сын нарадзіўся, дрэва яшчэ трэба пасадзіць, бо толькі кусты саджаў. Што яшчэ трэба?

## О

**Ордэн.** З узнагарод у мяне — залаты медаль чэмпіянату Еўропы і значок майстра спорту Беларусі. Дарэчы, значок той рарытэтны — з бел-чырвона-белым сцягам і сімволікай, якая на пачатку незалежнасці Беларусі была афіцыйнай.

## П

**Падман.** Не скажу, што мяне вельмі шмат разоў падманвалі, але здаралася. Было вельмі балюча — і маральна, і матэрыяльна. На жаль, даводзіцца вучыцца на сваіх памылках.

## Р

**Рост.** У каго я пайшоў з такім ростам? Родныя па матчынай лініі былі высокія. А ўвогуле, я не камплексую з гэтай нагоды і адчуваю сябе даволі камфортна. Напрыклад, калі ехаў у аўтобусе, даводзілася станавіцца пад люк. Туды якраз галава ўмяшчалася. І цудоўна! Летам едзеш, у аўтобусе — духата, а табе галаву ветрам абдувае. Здаралася, што прасілі вераб'ёў дастаць з дрэва, некаторыя злыя жартачкі адпускалі... Я ставіў сябе вышэй за такіх людзей, хоць напачатку хацелася і з кулакамі накінуцца.

## С

**Скандал.** У 1992 годзе я гуляў за зборную СНД, лічыўся перспектыўным іграком. І вось маскоўскі ЦСКА вырашыў мяне "скрасці". Мне "прачысцілі мазгі", паабяцалі кантракт і шмат усяго іншага, прапанавалі схему патаемнага пераезду. Мы вярталіся з чэмпіянату Еўропы праз Маскву, мне сказалі перайсці ў аэрапорце ў суседні тэрмінал і далучыцца да ЦСКА, які вылятаў у Грэцыю. Адным словам, прапанавалі ўцячы з Беларусі, бо адтуль мяне ніхто б не адпусціў. Але беларускі бок нейкім чынам даведаўся пра гэтую змову, і мяне ў аэрапорце перахапілі і даставілі ў Мінск. Скандал быў, але ціхі. Дарэчы, у Мінску мне адразу ж паабяцалі кватэру, каб больш не было жадання ўцякаць.

## Т

**Тэлебачанне.** Я тэлевізар, шчыра кажучы, не гляджу, бо там няма чаго глядзець. Нічога цікавага не знаходжу. Калі што і патрэбна, то шукаю ў інтэрнэце. У нас наогул ніхто не глядзіць дома тэлевізар. Хоць работа ў мяне такая, што часам даводзіцца праглядаць некаторыя матчы. І вось з'явіўся ў нас спартыўны тэлеканал "Беларусь 5", але ж яго можа пабачыць толькі мізэрная частка насельніцтва. Для каго тады такі канал?

## У

**Узрост.** Маладзей не раблюся, але, як мне падаецца, галоўнае, каб у душы быў малады. Я сябе адчуваю не старэйшым за 25—30 гадоў.

## Ф

**Фанаты.** Заўзятары клуба радуюць. Арганізаваўся фан-сектар, ён пашыраецца. А клуб чым зможа, тым дапаможа. Разам трэба ісці да светлай будучыні, новых перамог і новых дасягненняў.

## Х

**Хапкідо.** У мяне чырвоны пояс па хапкідо — адным з відаў усходніх баявых мастацтваў. У Амерыцы два гады займаўся хапкідо, але пасля баскетбольнае жыццё закруціла і панесла. Не было часу на заняткі ўсходнім адзінаборствам. Хоць у жыцці мне дало шмат. І філасофію, і фізічную практыку... Дзякуючы хапкідо прадухіліў многія траўмы, у бойках на баскетбольнай пляцоўцы ратавала.

## Ц

**"Цмокі-Мінск".** На гэты момант — справа ўсяго майго жыцця. Калі "Мінск-Арэна" скандзіруе "Цмокі"! Цмокі"!", каманда на роўных гуляе з ЦСКА — гэта значыць, што клуб жыве.

**Цырульня.** Сам ведаю — трэба ўжо ў цырульню. Апошнія гады я хаджу толькі з доўгімі валасамі, хоць у Амерыцы адзін час быў лысым. Але зараз мне галіць галаву не дазваляюць. Жонка кажа: "Дзяцей напалохаеш". Супрацоўнікі клуба: "Балельшчыкі на арэне напалохаюцца. Прытрымлівайся іміджу". Так і хаджу.

## Э

**Эвалюцыя.** Людзі, якія не эвалюцыянíруюць, мне не цікавыя. Сярод сяброў у мяне такіх і няма. А вось знаёмыя ёсць, якія на нейкім узроўні спыніліся. У кагосьці няма магчымасцяў, у кагосьці — інтарэсу да эвалюцыі. Горш, калі няма інтарэсу.

## Ю

**Юнацтва.** Не хачу сказаць, што я саджуся, выпіваю чарку, закусваю скваркай, і пабегла сляза ўспамінаў юнацтва. Такога няма. Сустракаюся з сябрамі, з якімі правёў лепшыя юнацкія гады, але і часу нешта ўспамінаць асабліва няма, бо жывём сёння і стараемся вырашаць актуальныя справы. Ды і ўнутры, як казаў, я яшчэ малады. Здаецца, толькі з маладзёжнага чэмпіянату Еўропы прыехаў.

## Я

**Яшчэ хацелася б...** Эвалюцыі. Каб тое, чаго дасягнуў, не стала вышэйшай кропкай. І, натуральна, каб пілося, елася і яшчэ хацелася.

**Алесь СІВЫ.**

*Фота з сямейнага архіва Аляксандра Куля.*



ШАШКІ

## Міжнародныя майстры

По шашачнай кампазіцыі ў Беларусі імі з'яўляюцца Аляксандр Кагоцька (Пінск), Аляксандр Сапегін (Усполле Мсціслаўскага раёна), мінчане Анатоль Шабалін і Віктар Шульга, Пётр Шклудаў (Наваполацк). ФМЖД прысвоіла ім высокае спартыўнае званне за значныя поспехі ў міжнародных спаборніцтвах. Напрыклад, А.Шабалін і П.Шклудаў сталі чэмпіёнамі свету ў раздзелах "Задачы-100" і "Праблемы-64" адпаведна, А.Кагоцька заваяваў сярэбраны медаль у жанры "Праблем-64", В.Шульга — бронзавы сярод складальнікаў камбінацый на 100-клетачнай дошцы, а А.Сапегін у гэтым відзе кампазіцыі заняў пятае месца і ў раздзеле "Камбінацыі-64" — чацвёртае.

Давайце пазнаёмімся з прыкладамі творчасці П.Шклудава (№1), А.Шабаліна (№2) і А.Кагоцькі (№3):

№1. **Белыя**: a5, b2, b6, c1, c3, c7, d2, f2, g1, g3 (10). **Чорныя**: a3, a7, d6, d8, e5, f4, f6, g5, h2, h4, h8 (11). **Выйгрыш** (81,66 ачка па змесце). Пашукайце яго самастойна.

№2. **Белыя**: 7, 11, 20, 31, 40, 42, 43, дамкі 3, 6, 25, 27, 45, 49(13). **Чорныя**: 4, 10, 15, 16, 18, 22, 29, 35, 44, дамкі 24, 36 (11). 94,67 ачка: 43—39, 2 (7A) 50, 7, 6—11, 25—9, 42 (1B) 45-7, 3—12, 6#. B(6) 50—11, 3—17, 1#. A(44) 1, 44, 45-40, 3—9, 42 (45C) 1—40, 25—34, 50#. C(50) 6—44, 25-39, 45#.

№3. **Белыя**: b4, b6, c5, c7, d6, e5, e7, g3, g5 (9). **Чорныя**: a5, a7, b2, c3, d2, e3, f4, g7, h2, h6, h8 (11). 79,67 ачка: b8, f8, b6, f2, e1, (h6:f4) e3, a3 (g7) b2 (h6) c3 (g5) d2 (h4) e1 (b4, g3) b6, g1+.



Дарэчы, норма міжнароднага майстра першаму скарылася В.Шульгу. Потым яе, а таксама норму міжнароднага гросмайстра выканаў Васіль Грабенка (Мінск), узначаліўшы спіс беларускіх праблемістаў. Раней самым тытулаваным быў Леанід Вітошкін (Гомель): ён меў пасведчанне гросмайстра СССР і дыплом міжнароднага гросмайстра ганаровай ступені.

## Абсалютны пераможца

Вынікі бліцаў 69—76 асобна не падводзіліся, бо не на ўсе заданні былі атрыманы дакладныя адказы. У агульным жа заліку лепшых паказчыкаў дасягнуў Леанід Жыхар (Мядзел). Ён і стаў абсалютным пераможцам. Яго чакае сюрпрыз з заахвочвальнага фонду П.Шклудава.

## Рашаем разам

**"Арганізатар, прапагандыст"** (В.Варушыла): 1. fg3 a:c5 2. ef8 h:f4 3. fh6 c:e7 4. h:f8x.

Нашы выпускі рэгулярна разглядаюць Аляксандр Гіль, Вадзім Лапацін, Вячаслаў Чудук, Міхаіл Самахвал і Уладзімір Акуліч. Усе яны працуюць фрэзероўшчыкамі на Мінскім заводзе халадзільнікаў.

**Мікалай ГЛАДКІ.**







## Минута славы

*В минувшие выходные футболисты борисовского БАТЭ досрочно, за 2 тура до финиша первенства, стали десятикратными чемпионами Беларуси.*

Трудно к этому что-то добавить, можно лишь отметить: начиная с 2006 года борисовская команда вообще никому не уступала трон и восемь сезонов подряд становилась лучшей в стране.

Как говорится, результат налицо. А радость от победы — на лицах!

**Алесь СВЕТЛАНИЧ, фото с официального сайта БАТЭ.**

ХОККЕЙ

## *Игрокам жлобинского «Металлурга» снизили зарплаты*

*Теперь они получают всего 52 миллиона рублей в месяц.*

Уровень зарплат в клубах, обладающих правом их самостоятельного определения (в частности, ХК "Динамо-Минск"), в сравнении с прошлым годом снижен на 40 процентов.

Такую статистику привел заместитель начальника управления Минспорта **Игорь Емельянов** на научно-практической конференции "Спорт в Республике Беларусь: правовые проблемы и перспективы развития". Главный редактор газеты "Прессбол" **Владимир Бережков** присутствовал на конференции и подвел некоторые результаты.

Ранее сообщалось, что в 2012 году среднемесячная зарплата в ХК "Металлург" зашкаливала — по 83,5 млн рублей на брата. Здесь по итогам последних девяти месяцев произошло понижение на 37,6 процента — теперь хоккеистам в Жлобине платят 52,1 млн рублей в месяц.

Всего же без учета работников элитных клубов (БАТЭ, хоккейное и гандбольное "Динамо"), вольных самостоятельно формировать ведомость, современные цифры по стране следующие: игроки основного состава — 11,7 млн руб., тренеры — 8 млн руб., руководители — 10,4 млн руб. в месяц.

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл.
(017) 3286871.
Тэл./факс
рэкламнага
аддзела: (017)
3286904, 3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 13089

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 11.11.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26640 экз. Заказ №4772.